Стар. 60. *Каб кнігам ды ногі!* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 18 лютага 1933 г. Датуецца 1933 г.

Стар. 64. *Пачатак шчасця.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 16 снежня 1935 г. Датуецца 1935 г.

Стар. 68. *З новым шчасцем.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 1 студзеня 1936 г. Датуецца 1935 г.

Стар. 72. *Дзяніс Сырамаха.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 27 студзеня 1936 г. Датуецца 1936 г.

Стар. 75. *Каб весела было...*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 5 красавіка 1936 г. Датуецца 1936 г.

Іерыхон — паводле біблейскага пісання — старажытны горад Палесціны (недалёка ад Ерусаліма), абнесены тоўстымі сценамі, якіх не маглі разбурыць яўрэі ў час іх нападу на Палесціну. Але, як пішацца ў Біблії, сцены разбурыліся самі сабой, ад гукаў свяшчэнных труб, і дзякуючы такому цуду горад быў узяты і цалкам разбураны.

Эсперанта — штучная міжнародная мова, якая атрымала назву ад псеўданіма яе аўтара, доктара Заменгофа Л. Л. (1859—1917). Мова эсперанта пабудавана на аснове еўрапейскай міжнароднай тэрміналогіі, але з іпакшай структурай. Асноўныя элементы эсперанта былі распрацаваны ў 1879 г.

Стар. 77. *Апошняя пасылка.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка», студзень, 1943 г., № 1. Датуецца 1943 г.

Штурмавік — член асобай ваенізаванай арганізацыі ў фашысцкай Германіі.

Стар. 80. *Елкі і палкі.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка». 1943 г., студзень, № 1. Датуецца 1943 г.

Стар. 82. *Чаго ж яна «рада»?* — Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., красавік, № 127—128, пад псеўданімам Астапчук. Датуецца 1944 г.

«Цэнтральная рада» — марыянетачны нацыянал-фашысцкі беларускі ўрад, утвораны гітлераўцамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў час акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі войскамі. На чале гэтага «ўрада» некаторы час стаяў беларускі нацыянал-фашыст Астроўскі Радаслаў, які да 1939 г. пражываў у панскай Польшчы.

«Дык ці не тая гэта рада, што ў 1918 годзе Вільгельму зад лізала?» — Маецца на ўвазе так званая «Беларуская рада» — арганізацыйны цэнтр беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі, утвораны ў ліпені 1917 года. У 1918 годзе, у перыяд часовай акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі, члены «Беларускай рады» ўсякім чынам выслужваліся перад германскім імператарам Вільгельмам.

Стар. 84. *«Я быў у Трасцянцы».*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» 6 верасня 1944 г. Датуецца 1944 г.

Трасцянец — вёска недалёка ад Мінска, дзе гітлераўцы ў час акупацыі Беларусі арганізавалі лагер смерці, у якім знішчылі многія тысячы мірнага насельніцтва.

Стар. 89. *Наглядная геаграфія.*— Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну», 1944 г., лістапад, № 135. Датуецца 1944 г.

Стар. 91. *Ці была ў яго галава?* — Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1945 г., № 5. Датуецца 1945 г.

Стар. 93. *Расціце — не аглядайцеся.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1946 г., № 11, пад псеўданімам Мацей Доўгі. Датуецца 1946 г.

Стар. 95. *«Сабачанё.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1946 г., № 12, пад псеўданімам Мацей Доўгі. Датуецца 1946 г.

Стар. 97. *Мая прынцыповасць.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1946 г., № 13—14, пад псеўданімам Мацей Доўгі. Датуецца 1946 г.

Стар. 99. *Есць на свеце дабрадзеі.*— Упершыню надрукаваны ў часопісе «Вожык», 1946 г., № 15. Датуецца 1946 г.

Сфінкс — у старажытным Егіпце статуя фантастычнай істоты з целам ільва і чалавечай галавой, якая сімвалізавала магутнасць егіпецкіх цароў.

Озірыс — у старажытнаегіпецкай рэлігіі бог вады і раслінасці; лічыўся таксама царом замагільнага свету і суддзёй душ памёршых.

Ізіда — у старажытнаегіпецкай рэлігіі багіня ўрадлівасці, адзін з праобразаў хрысціянскай божай маці.

Апіс — «свяшчэнны» бык, якому пакланяліся старажытныя егіпцяне, бачачы ў ім зямное ўвасабленне бога Пта — бога першапачатковай творчай сілы, апекуна рамёслаў і мастацтва.

Фараон — тытул старажытнаегіпецкіх цароў.

Хеопсава піраміда — грабніца егіпецкага фараона Хеопса (Трэцяе тысячагоддзе да нашай эры) — адзін з выдатнейшых помнікаў сусветнай архітэктуры.

Стар. 101. **«Мядзведзічы».**

Над раманам «Мядзведзічы» К. Крапіва працаваў з канца 1931 г. па канец 1932 г.

Да з'яўлення ў друку асобным выданнем большасць раздзелаў рамана друкавалася ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» № 1 (ліпень), 2 (жнівень), 3 (верасень), 4 (кастрычнік) за 1932 год. Апошнія раздзелы рамана друкаваліся таксама ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» № 1 (студзень), 2—3 (люты-сакавік) за 1933 год.

Асобным выданнем раман «Мядзведзічы» выйшаў у свет у 1932 годзе ў Мінску.

Валока — мера зямлі каля 20 дзесяцін (дзесяціна — 1,092 га).

Чацвертачок — тут чацвёртая частка першапачатковага сялянскага надзелу.

Пасэсар — часовы ўладальнік, арандатар маёнтка.

Стаўпец — планка з грабельнымі зубамі, насаджаная на грабільна.

Трама — асноўная бэлька, якая падтрымлівае столь.

Акладны ліст — тут ліст з указаннем грашовай сумы падатку.

Бава Каралевіч — герой лубачнай казкі, шырока папулярнай у Расіі ў XVII—XIX стст.

Яндоўка — тут у сэнсе нос.

«Санагога вялікая» — тут у сэнсе вялікая шышка, персона.

Дзевер — брат мужа.

Залвіца — сястра мужа.

Ятроўка — жонка мужавага брата.

Скарбнік — тут казначэй.

Скарач — кароткі ручнік з плеценымі махрамі.

Ланта — гультайка.

«Даў ёй камітэт... вясною каня».— Маюцца на ўвазе камітэты беднаты (камбеды) — арганізацыі вясковай беднаты, створаныя па прапанове У. І. Леніна на аснове дэкрэта Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ад 11 чэрвеня 1918 года. Камітэты беднаты з'явіліся апорнымі пунктамі дыктатуры пралетарыяту ў вёсцы. У кола іх дзейнасці ўваходзіла: размеркаванне хлеба, прадметаў першай неабходнасці, сельскагаспадарчага інвентару і інш. Яны адыгралі велізарную ролю ў барацьбе з кулацтвам, у пераразмеркаванні канфіскаванай зямлі, у забеспячэнні сельскагаспадарчымі прадуктамі рабочых цэнтраў і Чырвонай Арміі. Камітэты беднаты садзейнічалі ўсталяванню Савецкай улады ў вёсцы. Выканаўшы свае задачы, яны, па рашэнню Надзвычайнага Шостага Усерасійскага з'езда Саветаў (лістапад 1918 г.), зліліся з Саветамі ў вёсцы.

Камдэз — Камісія па барацьбе з дэзерцірствам, якая існавала ў час грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі.

«...зямля ўялавела...» — тут у сэнсе ўдзірванела, запусцела.

Каркі — невялікія санкі, пры дапамозе якіх возяць доўгія бярвенні, калоды.

Паўасьмінка *(паўасьміна)* — старая мера сыпучых цел; тут драўляная пасудзіна, у якой змяшчаецца паўасьміны збожжа.

«Губа» — тут гаўптвахта.

Фрэнзлі — матузы.

«...узяла троп» — тут у сэнсе «ўзяла звычку».

«Мультан» — тут гатунак табакі.

Біла — верхняя або ніжняя аградка ў калёсах.

Легіёны — тут часці белапольскай арміі.

Піліпаўка — паводле рэлігійных звычаяў, пост перад калядамі.

Чацвярціна — тут палавіна застаронка — месца ў гумне для складвання снапоў.

Падшпаркі — тут у сэнсе падлеткі.

Трацяк — тут трэцяя частка першапачатковага сялянскага надзелу.

Пярэбірак — тут пласт сена.

Праварына — загарадка ў хляве.

Асэсар *(лацін.)* — засядацель — у старыя часы — пасада засядацеля ў казённых палатах. Тут ужыта ў значэнні «важная асоба» (іранічны сэнс).

Мацыяш — тут у сэнсе завадатар.

«Нямецкая вайна».— Маецца на ўвазе вайна паміж царскай Расіяй і Германіяй у 1914—1917 гг.

Вілачкі — тут прыстасаванне ў калаўроце, пры дапамозе якога нітка наматваецца на шпулю.

Пялегавацъ — песціць.

Залатоўка — пятнаццаць капеек.

Паплаўнічы — вартаўнік лугу (поплаву).

Матавіла — прыстасаванне, якім наматваюцца ніткі пасля пражы.

Абыраліся — звykліся, прымірыліся.

«Там жа мо не дума якая...» — Маецца на ўвазе Дзяржаўная дума ў царскай Расіі — дарадчая «прадстаўнічая ўстанова», створаная пануючымі класамі для ашуканства працоўнага народа.

Парафіяне — веруючыя, якія належалі да той ці іншай парафіі — царкоўнага прыходу.

Нарог — рэжучая частка плуга.

Паліца — тут тая частка плуга, якая служыць для адвалу зямлі.

«...поўную андынару даю табе» — тут у сенсе «даю поўнае забеспячэнне».

Кіжлай *(абразлівае)* — непаваротлівы чалавек.

«...прыпала тварам на прысесць» — прыпала тварам на кросны (на палатно).

Барыс і Глеб — сыны кіеўскага вялікага князя Уладзіміра Святаслававіча. У міжусобнай барацьбе князёў яны былі забіты ў 1015 г. братам Святаполкам. Руская праваслаўная царква ў канцы XI в. залічыла іх да так званых «святых» і ўстанавіла ў іх гонар свята, якое адзначалася 2 мая па старому стылю.

Мзда — плата, хабар (іраніч.).

Гарнец — старая мера вадкіх і сыпучых цел.

Кана Галілейская — горад у Палесціне, дзе, паводле рэлігійнага падання, Ісус Хрыстос на адным з вяселляў утварыў цуд: ператварыў ваду ў віно.

Лоўж — куча галля.

Склюд — шырокая, выгнутая сякера з крывым тапарышчам для абчэсвання сцен.

Кантар — тут вуздэчка, аброць.

Бабка — тут маленькае пераноснае кавадла для кляпання стальных кос.

Амбона — узвышэнне ў царкве, адкуль свяшчэннаслужыцелі гаварылі пропаведзі. Тут ужыта ў іранічным сэнсе.

Настрамак — невялікі воз.

Юхтовыя перады — перады з асобага гатунку скуры.

Загадчык АкрЗУ — загадчык акруговага зямельнага ўпраўлення.

Капа — тут старая мера лічэння — шэсцьдзесят штук ці адзінак.

П а с а д — тут рад снапоў для малацьбы цэпам.

П у т а — тут кароткі ланцуг з крукам, які злучае каромысел з плугам.

Ч а л я д н і к — тут памочнік краўца, яго вучань.

П а к р о в ы — рэлігійнае свята.

С у г н е й — пануры чалавек.

Н а с т ы р а ц ц а — тут у сэнсе задзірацца, парушаць добрыя адносіны.

П р а т э с ы (*харугвы*) — вялікія палотнішчы на дрэўках з намалёванымі святымі.

Г і ш э ф т (*яўр.*) — справа.

## ЗМЕСТ

*На белорусском языке*

**КАНДРАТ КРАПИВА**

(Кондрат Кондратович Атрахович)

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ПЯТИ ТОМАХ

*том четвертый*

*Рассказы, фельетоны, памфлеты, роман «Медведичи»*

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары М. Р. Казлоў, Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар В. В. Шарамета.

АТ 04138. Здадзена ў набор 13/X 1974 г. Падп. да друку 6/VIII 1975 г. Тыраж 16 000 экз. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 18,9. Ул.-выд. арк. 18,85. Зак. 1605. Цана 87 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

Крапіва К.

К 77 Збор твораў у пяці тамах. Том 4. Апавяданні, фельетоны, памфлеты, раман. Мн., «Маст. літ.», 1975.

360 с. з іл.

У чацвёрты том уваходзіць проза пісьменніка, напісаная ім галоўным чынам у даваенны час. Побач з гумарыстычнымі апавяданнямі, фельетонамі друкуецца і раман «Мядзведзічы», прысвечаны паказу жыцця вёскі напярэдадні калектывізацыі.

Бел 2

К $\frac{0733\text{-}151}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 106-75